На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 218 (1282)

Чацвер, 22 лістапада 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае надвор'е, часам снег, мокры снег, слабы туман, месцамі галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Гомелі — -1...-3, Магілёве, Віцебску — -3...-5, Гродне — +1...+3, Брэсце — +2...+4, Мінску — каля 0.

У наступныя двое сутак: воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, мокры снег, слабая мяцеліца, на дарогах галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні і заходні, 6—11 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра 23-га на працягу сутак — -3...+2; 24-га ўначы — -3...-8, удзень — -4...+1.



ПУЛЬС

## Здзекуюцца з людзей

**З ізалятара часовага ўтрымання аддзялення міліцыі Мінскага раёна пасля адбыцця сямісутачнага арышту быў адпушчаны рок-музыкант Фёдар Жывалеўскі.**

Малады чалавек утрымліваўся ў адной камеры з лідэрам “Маладога фронту” Паўлам Севярынцам. Да адміністрацыйнай адказнасці яны былі прыцягнуты за правядзенне несанкцыянаванай акцыі супраць правядзення будаўніцтва МКАД у раёне мемарыяльнага комплексу Курапаты, дзе пахаваны ахвяры сталінскіх рэпрэсій.

Паводле расповяду маладога чалавека, умовы ўтрымання тут яшчэ горшыя, чым у вядомым спецпрыёмніку-размеркавальніку ГУУС Мінгарвыканкама на вуліцы Акрэсціна. Па словах Фёдара Жывалеўскага, у камеры, дзе яны ўтрымліваліся, колькасць людзей даходзіла да 12, хаця камера разлічана на восем — многім даводзілася спаць на падлозе.

Камера кішэла клапамі, на тры дні была адключана вада. Харчаванне складалася з чаю, кавалка хлеба раніцай і ўвечары, а ў абед — пахлёбкі. Перадачы не прымаліся за выключэннем аднаго разу, калі актывісткі “Маладога фронту” Ліі Кійко давялося дайсці да намесніка начальніка Мінскага РУУС.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Не плацяць за электраэнергію

**Кіраўніцтва Магілёўскага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі “Магілёўэнерга” ацэньвае фінансава-эканамічны стан свайго прадпрыемства як крытычны.**

Паводле звестак на 1 лістапада, сума крэдыторскай запазычанасці энергетыкам вобласці склала 100 мільярдаў рублёў, узровень аплаты адпушчанай энергіі спажыўцам 80,1 працэнта. Гэта самы нізкі паказчык у краіне.

Найбольш буйнымі даўжнікамі перад энергетыкамі застаюцца аб'яднанне “Хімвалакно”, завод штучнага валакна імя Куйбышава, Беларускі цэментны завод. Сярод сельскагаспадарчых прадпрыемстваў — аграгандлёвая фірма “Беразіна” і калгас “Рассвет” імя К.Арлоўскага Кіраўскага раёна.

Згодна з інфармацыяй энергетыкаў, сельскія вытворцы чатырох раёнаў вобласці з пачатку года не заплацілі за спажытую энергію ніводнага рубля. Яшчэ ў трох раёнах узровень аплаты сельскімі гаспадаркамі энергетыкам склаў 0,1 працэнта.

## Суды парушаюць закон

**Назіральнікі грамадскага аб'яднання “Магілёўскі праваабарончы цэнтр” правялі маніторынг судовых працэсаў у судах Магілёва. Падчас 456 судовых пасяджэнняў імі было зафіксавана 585 парушэнняў у 301 (66 працэнтаў) судовым пасяджэнні.**

У справаздачы па правядзенні маніторынгу гаворыцца пра тое, што суддзі часта не надаюць належнай увагі падрыхтоўцы спраў да судовага разбору, 90 працэнтаў пасяджэнняў не пачынаюцца ў прызначаны час, не тлумачацца судом удзельнікам грамадзянскага і адміністрацыйнага судаводства іх правы і абавязкі. Таксама назіральнікі адзначылі недастатковую матэрыяльна-тэхнічную базу судоў, нізкую аплату працы суддзяў, адсутнасць спецыяльна адведзеных памяшканняў для пракурораў і абаронцаў, антысанітарныя ўмовы ў пакоях для арыштаваных.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Пішыце заявы ў банк “БелБалтыя”

**Улічваючы просьбы крэдытораў, падоўжаны тэрмін падачы заяў аб скасаванні дагавораў з ТАА “Банк ”БелБалтыя" — да 1 студзеня 2002 года і заключэння дагавораў аб пагашэнні запазычанасці ў ААБ “Беларусбанк” — да 1 ліпеня будучага года.**

Такое права ўкладчыкам, а таксама іх нашчадкам дадзена пастановай Савета міністраў і Нацыянальнага банка ад 19 лістапада 2001 года №1675/27 “Аб некаторых захадах па вяртанні фізічным асобам сродкаў у замежнай валюце, прыцягнутых ва ўклады таварыствам з абмежаванай адказнасцю ”Сумесны беларуска-латвійскі банк “БелБалтыя”.

Апрача таго, зменены і дапоўнены правілы датэрміновага вяртання грашовых сродкаў фізічным асобам, якія заключылі з ААБ “Беларусбанк” дагаворы на пагашэнне запазычанасці банка “БелБалтыя”. Новаўвядзеннем прадугледжаны датэрміновыя выплаты і пры пагашэнні льготнага крэдыту. Рэгламентаваны парадак вяртання грашовых сродкаў крэдыторам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

Грошы будуць вяртацца шляхам безнаяўнага пералічэння на рахунак арганізацыі грамадзян-забудоўшчыкаў ці арганізацыі, якая заключыла дагавор на долевы ўдзел у будаўніцтве (дагавор куплі-продажу жылога памяшкання), у межах сумы чарговага плацяжу на падставе адпаведных дакументаў. На пагашэнне льготнага крэдыту сродкі будуць пераводзіцца на пазычальны рахунак крэдытаатрымальніка.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Канфіскаваны спірт і цыгарэты

**Супрацоўнікі брэсцкай міліцыі на працягу апошніх дзён канфіскавалі 1850 літраў спірту і 4680 пачкаў імпартных цыгарэт.**

Мікрааўтобус са спіртам быў спынены ў Брэсце супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Спірт утрымліваўся ў дзевяці пластмасавых бочках ёмістасцю па 200 літраў, а таксама ў 50-літровай каністры. Кошт грузу, на які ў брэстаўчаніна не было накладной, ацэнены ў суму 3,5 мільёна рублёў.

Цыгарэты былі канфіскаваныя ў 34-гадовай жыхаркі вёскі Дзівін Кобрынскага раёна. Яны знаходзіліся ў яе дома. Супрацоўнікі міжраённага аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі пры УУС канфіскавалі безакцызны тавар, кошт якога ацэнены ў 3 мільёны рублёў.

Апрача таго, затрыманы 28 тон яблыкаў, якія без адпаведных дакументаў даставіў у Брэст грамадзянін Польшчы. Зараз супрацоўнікі міліцыі высвятляюць, якім чынам вялікагрузны аўтамабіль “ДАФ” з гэтай колькасцю грузу змог перасячы польска-беларускую мяжу без дакументаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

КАДРЫ

## Ярмошына — у Маскву?

### Не выключана, што ў хуткім часе новую пасаду атрымае былы старшыня беларускага ўрада Уладзімір Ярмошын.

*Уладзімір Ярмошын і Уладзімір Пуцін у Мінску. Лістапад 2000 года.*

**Фота IREX/ProMedia.**

Кулуары прэзідэнцкай адміністрацыі прынеслі слухі аб тым, што рыхтуецца загад аб назначэнні Ярмошына паслом Беларусі ў Расію.

На гэтым тыдні ў Мінск прыехаў цяперашні кіраўнік беларускага пасольства ў Маскве Уладзімір Грыгор'еў. Некаторыя кажуць, што гэта невыпадкова. Замест таго каб рыхтаваць візіт Лукашэнкі ў Маскву, які адбудзецца ў канцы лістапада, Грыгор'еў чамусьці наведаў Мінск.

У Міністэрстве замежных спраў каменціраваць прыезд пасла адмаўляюцца. Чыноўнікі кажуць, што адпачынак — гэта асабістая справа Грыгор'ева, і ён нават не наведваўся ў знешнепалітычнае ведамства. Аднак не абвяргаюць інфармацыю аб тым, што Грыгор'еву рыхтуецца замена. У якасці пасла Беларусі ў Расіі Грыгор'еў працуе амаль 5 гадоў — тэрмін па дыпламатычных мерках немалы. У беларускім знешнепалітычным ведамстве нават існуе негалосная ўстаноўка, што працаваць у якасці пасла дыпламаты павінны не больш як 5 гадоў. Акрамя таго, Грыгор'еў — член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі і пэўны час павінен знаходзіцца ў Мінску.

Што тычыцца Ярмошына, то, кажуць, што адразу пасля адстаўкі Лукашэнка паабяцаў яму пасаду ў Маскве. Прагназавалі нават, што Ярмошын зойме месца Дзяржсакратара саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, якое цяпер займае Павел Барадзін. Але такое рашэнне — справа не толькі беларуская. А вось загад аб прызначэнні на пасольскую пасаду Лукашэнка падпісвае сам.

Дарэчы, адпачынак Ярмошына зацягнуўся — больш як 2 месяцы былы старшыня ўрада сядзіць без працы. За гэты час ён паспеў пабываць на Чорным і Міжземным марах. Відаць, сіл набраўся...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## У Гомелі судзяць вялікага начальніка

### У Гомельскім абласным судзе пачаліся слуханні па крымінальнай справе ў дачыненні да былога намесніка генеральнага дырэктара Светлагорскага вытворчага аб'яднання “Хімвалакно” Валерыя Надзеждзіна.

Валерыю Надзеждзіну, арыштаванаму ў снежні 2000 года, прад'яўлена абвінавачанне ў атрыманні хабару ў асоба буйным памеры, адмыванні матэрыяльных каштоўнасцяў, атрыманых злачынным шляхам, і крадзяжах шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (ч. 1 артыкул 210).

У прыватнасці, яму інкрымінуецца атрыманне незаконнага ўзнагароджвання ў памеры 92 тысяч 784 долараў ЗША і 101 тысячы 400 нямецкіх марак у перыяд з 1993 па 1999 год ад некалькіх фірм Германіі, якія пастаўлялі сыравіну на ВА “Хімвалакно”. Дзяржаўны абвінаваўца Алег Літошка паведаміў, што па суме хабару гэтую крымінальную справу можна лічыць самай буйной за апошнія некалькі гадоў.

У якасці адмывання даходаў абвінавачанне інкрымінуе Валерыю Надзеждзіну набыццё ў 2000 годзе трохпакаёвай кватэры ў Маскве і яе абуладкаванне, на што, на думку следства, ім было затрачана 60 тысяч долараў ЗША, незаконна атрыманых ад адной з замежных фірм.

Былы намеснік генеральнага дырэктара прызнаў сябе вінаватым поўнасцю па абвінавачанні ў крадзяжы і часткова — у атрыманні хабару, пагадзіўшыся з сумай 101,4 тысячы нямецкіх марак і 13,5 тысячы долараў ЗША. Але ён адмаўляецца называць гэтыя грошы хабарам. “Ніякіх спрыяльных умоў і садзейнічання фірмам я не аказваў. За што мне перадаваліся грошы, мне невядома”, — заявіў ён у судзе. Надзеждзін лічыць, што гэтыя грошы — камісійныя ўзнагароджанні, адлічваць якія прынята на Захадзе.

Як устанавіла следства, Валерый Надзеждзін захоўваў грошы дома або ў гаражы. Менавіта ў гаражы ўжо пасля свайго арышту ён паказаў месца, дзе былі знойдзены струхлелыя некалькі дзесяткаў тысяч долараў ЗША. А ўсяго ў яго пры вобыску было канфіскавана 56 тысяч долараў ЗША.

**Ірына ШАНЦАВА.**

КАНФЛІКТ

## Ці будуць мемарыялізаваны Курапаты

### Днямі грамадская ініцыятыва “За ўратаванне мемарыялу Курапаты” паспрабавала наладзіць сустрэчу беларускай грамадскасці з “прадстаўнікамі ўстаноў, заангажаваных у будаўніцтве”.

Адносіны ўлад да безумоўна вастрэйшага пытання былі бачны адразу: спачатку актывістам ініцыятывы забаранілі правесці сустрэчу ў актавай зале дзяржаўнай турыстычнай фірмы “Белінтурыст”, што на праспекце Машэрава, 19. Потым сваё вета наклаў і абласны прафсаюз, размешчаны на плошчы Свабоды. На думку Віктара Івашкевіча, галоўнага рэдактара газеты “Рабочы”, у офісе якой у рэшце рэшт сабраліся ўдзельнікі дыялогу, “ручныя прафсаюзы зноў паказалі сваю сутнасць і сваім крокам забароны паведамілі нам: выбары прайшлі, пра дэмакратыю забудзьце”.

Але ж і ў маленькае бюро “Рабочага” завіталі далёка не ўсе з запрошаных “слуг народа”. Нікога не прыслаў прэм'ер Навіцкі, ніяк не адрэагаваў старшыня Мінскага гарвыканкама Паўлаў, ні слова не было пачута ад Міністэрства культуры.

Нават тыя, хто прыйшоў (аўтар праекту пашырэння Мінскай кальцавой дарогі Мікалай Крачэтнікаў з “Белгіпрадара” і дырэктар інстытута “Мінскград” Аляксандр Калантай), уцягнулі ўдзельнікаў сустрэчы ў доўгія і безвыніковыя дыскусіі на вузка будаўнічыя тэмы.

У незарэгістраваным “Маладым фронце”, прадстаўнікі якога працягваюць абараняць Курапаты, не губляюць аптымізму. Крыжы будуць узнаўляцца, прычым “па ўсім перыметры ўрочышча, з мэтай не дапусціць правядзення там рознага роду пікнікоў ды высечкі лесу”. “Маладафронтаўцы” таксама збіраюцца пабудаваць некалькі драўляных каплічак на тэрыторыі некропаля і ўсталяваць драўляную “Сцяну Памяці”.

Супрацьстаянне працягваецца.

**Алесь СІЛІЧ.**

ЗЛОБОДНЕВНЫЕ БЕСЕДЫ

## МОСТ ЧЕРЕЗ БЕЛАРУСЬ

### С известным польским политологом, заместителем директора Центра восточных исследований Бартоломеем Сенкевичем беседует Семен Букчин

*Бартоломей Сенкевич.*

**— В течение последних полутора лет очевидно — идет нормализация польско-российских отношений. В январе будущего года ожидается визит в Польшу президента России Владимира Путина. Получается, что строительство этого польско-российского моста, налаживание этого диалога идет как бы “через голову” Беларуси. Ситуация явно ненормальная, если иметь в виду существование Союза Беларуси и России. Видите ли вы возможность ее изменения с связи с потеплением и нормализацией отношений Польши и России?**

— Думаю, что ситуация будет меняться. Об этом свидетельствует и позиция нашего нового премьера Лешека Миллера, заявившего о необходимости развития новых контактов с Беларусью. В то же время поиск более основательного ответа на ваш вопрос заставляет внимательнее приглядеться к тому, чему мы были свидетелями, начиная с 1995 года. Именно с этого времени, то есть вскоре после первых президентских выборов, в Беларуси начинает укрепляться авторитарный режим, отметающий и писаные и неписаные законы, демократические нормы, общепринятые на европейском континенте. Именно такая политика поставила белорусский режим в один ряд с Сербией Милошевича. Разница, однако, состоит в том, что поскольку Лукашенко не проводил агрессивной иностранной политики, способной породить не словесные, а реальные международные конфликты, и вместе с тем правил и продолжает править благодаря российской поддержке, то проблемы Беларуси для Европы как бы не существует.

**— А чего же стоят все рассмотрения “белорусского вопроса” в Европарламенте, Совете Европы, в ОБСЕ? Неужто это чисто бумажные декларации?**

— Надо смотреть реально на вещи. Для Западной Европы Беларусь — это нечто вроде черной дыры. Там вообще могла быть некая пустынная территория, на которой вполне достаточно нормальной дороги, обеспечивающей сообщение с Россией. Да, это грустный факт, но ведь для любого нормального наблюдателя в Европе очевидно, что Лукашенко пользуется немалой общественной поддержкой у себя в стране, что подтверждают очередные голосования, независимо от больших или меньших фальсификаций. И эти факты вынуждают более осторожно подходить к утверждениям оппозиционеров, что буквально весь народ настроен против Лукашенко и что только нормальные выборы могут показать, кому в действительности принадлежит большая часть народных предпочтений.

**— Хотите сказать, что Европа как бы вынуждена считаться с собственным выбором белорусами своей судьбы?**

— Именно! Вместе с тем вполне определенные действия Лукашенко способствовали превращению его в политического парию Европы. Ряд событий в Беларуси, в том числе невыясненные исчезновения, а скорее всего убийства видных оппозиционеров в Беларуси бросают тень на существующий там режим. Запад пытался влиять на ситуацию в Беларуси в плане демократизации жизни двумя способами. Первый — это обещания финансовой помощи со стороны Всемирного банка, Международного валютного фонда, кредитов от некоторых западных государств. Эта “морковка” обещалась взамен либерализации экономики, соблюдения демократических традиций в общественной жизни, но была отвергнута. Лукашенко более устраивает экономическая система, которую иначе не назовешь, как “коммунистический музей” с автократическим оттенком, нежели создание таких условий, при которых образовались бы целые слои населения, независимые от его личной власти. Был и второй способ воздействия. Я имею в виду бойкот, исключение Беларуси из европейского процесса. И эта политика, в какой-то степени условно говоря, санкций, изоляции также не принесла результата. Во всяком случае не ослабила власти Лукашенко. Сегодня очевидно, что ни один внешний инструмент не в состоянии изменить внутреннюю ситуацию в Беларуси. И это будет продолжаться до тех пор, пока Лукашенко будет выгоден России.

**— Проблема, занимающая, кстати, не один ум в Беларуси. Действительно, как долго может длиться это “пока”?**

— Нынешний год является в этом плане переломным. До этого Запад, по крайней мере немалая часть западных аналитиков находилась под убеждением — которое, кстати, Лукашенко стремился всячески поддерживать, — что мы имеем дело в Беларуси как бы с двумя силами. С одной стороны — это президент, его административно-репрессивный аппарат, с другой — это демократическая оппозиция, которая проникнута настроениями антилукашенковскими, антироссийскими и одновременно проевропейскими и, следовательно, готова к осуществлению радикальных реформ в случае прихода к власти. Это была такая схема представлений о ситуации в Беларуси, которая многих на Западе устраивала.

**— Вероятно, корни этих представлений прячутся еще в эпохе “холодной войны”. Демократы, диссиденты против тоталитарных режимов в Центральной и Восточной Европе...**

— Во всяком случае многим на Западе казалось, что в Беларуси мы имеем дело с неким пускай бледным, но все-таки отражением польской “Солидарности”. Ну, или с такой классической ситуацией противостояния, которая сложилась в Югославии, — прогрессивные демократы и авторитарный Милошевич.... И Лукашенко, как я уже говорил, был заинтересован в живучести этой схемы. Но не потому, что он как-то особенно опасался белорусской оппозиции, поскольку она ведет свое маргинальное существование в Беларуси только из милости Лукашенко. Если он в один прекрасный день решит, что оппозиция ему не нужна, ее не будет. Но в том-то и дело, что она ему нужна, чтобы демонстрировать Москве безальтернативность его власти. Если не я, то кто? Зенон Позняк? Но тогда, господа россияне, это конец ваших влияний в Беларуси, конец ваших военных баз здесь, это проблемы с российским транзитом на Запад, это, возможно, самое страшное, американские базы в Беларуси...

**— Ну, у нас не проблема найти и кого-нибудь помягче Позняка, какую-нибудь вполне пророссийскую фигуру, которая бы и Запад устраивала одновременно...**

— Видимо, проблема в том, на каком политическом поле может взойти или произрастать такая фигура. Переломность последнего года в Беларуси, о которой я упоминал, заключается в том, что у вас начинает формироваться третья сила — этот процесс происходит в самой команде Лукашенко, где есть люди либо недовольные сложившейся системой власти, либо уже конфликтущие с ней на почве распределения влияний, денег. Нет никаких сомнений в том, что эти люди не в меньшей степени настроены пророссийски, чем сам Лукашенко. Мы помним, что главный соперник его на минувших президентских выборах просил о помощи в деле соблюдения демократической процедуры не Буша и не Блэра, а только Путина. Таким образом, можно говорить о формирующейся в Беларуси силе, которая может быть альтернативной режиму и в то же время выглядеть достаточно безопасной и приемлемой для Москвы в смысле сохранения ее интересов в Беларуси.

**— Пока не видно, чтобы Москва пыталась хотя бы как-то опереться на эту силу. А ведь достаточно было хотя бы в течение трех предвыборных дней дать по российским телеканалам выступить — при соответствующих, разумеется, гарантиях — всем беглым следователям и сотрудникам МВД и КГБ Беларуси, причастным к распутыванию политических убийств, в том числе функционерам такого высокого уровня, как отправленные в отставку председатель КГБ Мацкевич и генеральный прокурор Божелко, и с диктатором было бы покончено... Однако Москва на это не пошла.**

— И тем не менее выскажу предположение, которое может показаться кому-то рискованным. Представляется, что в Беларуси сейчас формируются предпосылки для того, чтобы Лукашенко не досидел в президентском кресле до конца второй каденции. Это может произойти не в результате некоего широкого общественного бунта или действий оппозиции, или полной утраты им поддержки в обществе.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ФЕСТЫВАЛЬ

## “Лістапад” аўскае кіно

### 23 лістапада ў Мінску пачынаецца Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі “Лістапад-2001”

Як і ў мінулым годзе, кінафорум пройдзе пад асабістым патранажам старшыні Мінгарвыканкама **Міхаіла Паўлава.** Нягледзячы на тое, што ў Міхаіла Якаўлевіча амаль няма вольнага часу, на адкрыццё і закрыццё лістападаўскага фестывалю ён прыходзіць заўсёды. І, у адрозненне ад некаторых высокапастаўленых чыноўнікаў, не сыходзіць з залы адразу пасля заканчэння ўрачыстай часткі, а разам з народам глядзіць кіно.

Святочнае адкрыццё фестывалю адбудзецца на самай дарагой сцэне краіны — у Палацы Рэспублікі. Арэнда гэтай залы каштуе дзесяць тысяч долараў, аднак для “Лістапада” Палац Рэспублікі прадаставілі бясплатна.

Падчас фестывалю плануецца падпісаць дагавор і праграму супрацоўніцтва паміж міністэрствамі культуры Беларусі і Літвы, а таксама — трохбаковага пагаднення паміж міністэрствамі Беларусі, Расіі і Літвы і Мінгарвыканкама аб стварэнні Цэнтра расійскага кіно на базе кінатэатра “Перамога”.

У конкурснай праграме будуць браць удзел 16 фільмаў, сярод якіх “Прыходзь на мяне паглядзець” (рэжысёр Алег Янкоўскі), “Брэменскія музыканты” (рэжысёр Аляксандр Абдулаў), “Яды, альбо Сусветная гісторыя атручэнняў” (рэжысёр Карэн Шахназараў), “Містэрыя старой управы” (рэжысёр Яніс Стрэйч), “Сёстры” (рэжысёр Сяргей Бадроў-малодшы) і іншыя.

Як звычайна, на фестываль прыедзе шмат вядомых акцёраў і рэжысёраў. Іварс Калныньш, Валерый Тадароўскі, Уладзімір Грамацікаў, Мікалай Бурляеў, Віктар Паўлаў, Вялянціна Цялічкіна, Барыс Хмяльніцкі, Сяргей Гармаш.

Між іншым, “Лістапад” павінен быў распачацца амаль на тыдзень раней. Аднак адкрыццё прыйшлося перанесці, бо менавіта ў гэты час у Расіі праходзіў з'езд Саюза кінематаграфістаў і многія расійскія госці (асноўная масоўка фестывалю) не маглі прыехаць у прызначаны тэрмін.

На “Лістапад-2001" таксама запрасілі і А.Лукашэнку. Але замест яго хутчэй за ўсё з'явіцца прэм'ер-міністр ці адзін з віцэ-прэм'ераў. Як і ва ўсе мінулыя гады...

**Марына КОКТЫШ.**

**На фота:** *на “Лістападзе-2001" акцёр маскоўскага тэатра ”Современник" Сяргей Гармаш прадставіць дзве карціны — “Механічная сюіта” і “Пяшчотны ўзрост”.*

ДАЙДЖЕСТ

## Американские врачи хотят быть палачами



Несмотря на то что многие медицинские общества, в том числе и Американская медицинская ассоциация, запрещают врачам присутствовать при исполнении смертных казней, по словам некоторых медиков, они хотели бы участвовать в казнях, приводимых в исполнение путем введения смертельных инъекций.

Вопрос об участии в исполнении смертной казни был задан 400 врачам. Четверо из каждой десятки опрошенных заявили, что хотели бы хотя бы один раз присутствовать при введении смертельной инъекции. 25 процентов ответили, что хотели бы принимать участие в пяти или более акциях. Еще 36 процентов опрошенных заявили, что хотели бы участвовать в констатации факта смерти, и 19 процентов согласились бы помогать вводить инъекцию.

"Рейтер".

## Следователи гадают, почему у А-300 отвалился хвост

Следователям, работающим по делу о падении над Нью-Йорком самолета А-300, не удалось обнаружить никаких свидетельств того, что катастрофа явилась результатом теракта. Тщательный анализ записей "черного ящика" из хвостовой части самолета не выявил признаков нахождения на борту А-300 взрывного устройства.

Особое внимание следствие уделяет хвостовой части разбившегося самолета. А-300 попал в турбулентный поток воздуха, образовавшийся в момент взлета самолета японской авиакомпании, однако эксперты полагают, что это не могло стать причиной отрыва хвоста лайнера. "Турбуленция — очень значительный фактор. Однако мы еще не сталкивались со случаями, когда ее влияние могло стать причиной отделения хвостовой части самолета", — сообщил руководитель отдела безопасности НСБТ Джон Кларк.

## Президенту Венесуэлы помешала птичка

Пилот самолета "Боинг-737", на борту которого находился президент Венесуэлы, был вынужден прекратить разгон лайнера во время взлета из-за птицы, попавшей в один из его двигателей. Президент Уго Чавес сам сообщил журналистам об этом инциденте, произошедшем в аэропорту Сан-Фернандо де Апуре (300 км от Каракаса). "После попадания какой-то крупной птицы в двигатель самолета произошло возгорание, и пилот остановил разбег перед взлетом в самом конце ВПП", — сказал Чавес.

В результате происшествия никто из находившихся на борту не пострадал.

"Ассошиэйтед Пресс".

## Конституционный суд Украины отменил прописку

На Украине отменена прописка граждан по месту жительства. Решение об этом принял на своем заседании Конституционный суд страны, признав не соответствующими Конституции ряд положений о паспортной службе граждан Украины, касающихся института прописки граждан. Решение Конституционного суда Украины признано окончательным, является обязательным для выполнения и обжалованию не подлежит. Ответственность за выполнение данного решения Конституционный суд возложил на кабинет министров и парламент Украины.

Вместо института прописки будет введена уведомительная система о регистрации граждан по месту жительства. В этой связи вводится единый реестр граждан, который будет вести Министерство юстиции страны.

РИА "Новости".

## В здании Евросоюза в Македонии произошел взрыв

В здании представительства Европейского Союза в Македонии произошел взрыв. По данным полиции, взрывное устройство было брошено в здание из проезжавшего мимо автомобиля. В результате взрыва резиденция, расположенная в 35 км к западу от Скопье, получила значительные повреждения. Данных о пострадавших пока нет.

"ДПА".

## Испания и Великобритания согласуют статус Гибралтара

Великобритания и Испания намереваются окончательно согласовать статус Гибралтара до следующего лета. Переговоры министров иностранных дел Великобритании Джека Стро и его испанского коллеги Хосе Пике сопровождались демонстрацией жителей Гибралтара. Около 30 человек, проживающих на спорной территории, прибыли в Барселону, чтобы выразить протест в связи со встречей глав внешнеполитических ведомств. Главный министр Гибралтара Петер Каруана бойкотировал переговоры.

"Би-Би-Си".

## FIFA и UNICEF посвятили чемпионат мира по футболу-2002 детям

В Нью-Йорке состоялась пресс-конференция, на которой президент Международной федерации футбольных ассоциаций (FIFA) Зепп Блаттер и звезда мирового футбола Пеле сообщили о том, что чемпионат мира по футболу 2002 года будет посвящен детям. Пеле и Блаттер объявили также об организации программы помощи детям, созданной при содействии FIFA с Фондом помощи детям при ООН (UNICEF).

Впервые в истории проведения мировых первенств по футболу мундиаль в Японии и Южной Корее посвятят гуманитарной проблеме.

"Рейтер".

*На снимке: звезда футбола Пеле.*

## Детей из краматорского интерната заразили сальмонеллезом

Воспитанники и сотрудники школы-интерната для больных туберкулезом детей в городе Краматорске Донецкой области заразились сальмонеллезом. К такому выводу пришла областная санэпидемстанция, исследовавшая продукты, которыми кормили в интернате. По последним данным, в инфекционное отделение городской больницы было госпитализировано 175 человек: 144 ребенка и 31 взрослый. Всем им был поставлен первичный диагноз — "острое пищевое отравление". Все заболевшие учились или работали в интернате.

Согласно результатам лабораторного исследования, проведенного в больнице, сальмонелла выявлена у большинства заболевших.

"Магнолия-ТВ".

## Самый популярный в Москве — Брюс Уиллис

Компания "Гэллап-Медиа" по заказу российского еженедельника "7 дней" провела опрос среди москвичей в возрасте от 16 до 55 лет с целью выявить самых популярных зарубежных актеров и актрис в 2001 году. Самым популярным актером этого года москвичи назвали Брюса Уиллиса.

Далее места в первой десятке распределились следующим образом: второй — Ричард Гир, третий — Жерар Депардье, четвертый — Роберт Де Ниро, пятый — Жан-Поль Бельмондо, шестой — Мэл Гибсон, седьмой — Аль Пачино, восьмой — Джордж Клуни, девятый — Джек Никольсон, десятый — Джон Траволта.

Лучшей актрисой года москвичи назвали Джулию Робертс.

"Интерфакс".

У СУСЕДЗЯЎ

# ДАЛЁКАЯ ДАРОГА ДА БЛІЗКАЙ СУСЕДКІ

**У былыя часіны дабрацца да Рыгі было вельмі проста. Чысцюткі акуратны цягнік "Чайка" ўранні браў разгон з Мінска і весела бег да Вільні, да Рыгі, да Таліна. Правадніцы ветлівыя, як вахцёры-міліцыянты ў былым будынку ЦК. Табе і гарбату фірмовую паднясуць, каву сапраўдную; газету свежую — цешся, пасажыр.**

**А цяперака... Пратырчыш уга колькі каля акаваных варот пасольства Латвіі, што атабарылася непадалёку ад завода вылічальнай тэхнікі, у пяці хвілінах ходу ад Камароўкі. А калі нешанцоўны, аднаго дня мала, каб дарвацца да акенца, дзе табе выдадуць адпаведныя бланкі, але не задарма тая ласка — віза каштуе 15 даляраў. Заплаці і рыхтуйся ў дарогу ў некалі нам не вельмі ўжо і братнюю, а цяпер зусім ахаладзелую суседку — Латвію.**



Вячаслаў ДУБІНКА

### Рыжскія мытнікі ветліва бяруць пад казырок, а свае, родныя, за гострую заточку

Цягнік, як памчаць на Рыгу, ужо добра натаміўся, ляскаючы коламі аж з Гомеля. Забрындаными, з бруднымі ад ліпуча-пляскаай машкаты, вокнамі і сонна-абыякавымі правадніцамі. На мінскім пероне цішыня, пасажыраў не дужа. А шкляны металічна-бетонны пухір зроблены так, што не прытулішся, не прысядзеш! Хадзі, рот разявіўшы, — угахалі столькі шкла, мармуру, дарагой імпартовай электратэхнікі. Новая будыніна разлічана менавіта на гасцей, якія, і праўду, рот разяўляючы, цягнучы свае бэбахі, выкаціўшыся з цягніка. А свае і на вуліцы пачакаюць.

...Грымяць колы, спяць стомленыя пасажыры, на вуліцы глыбокая ноч. І рыхтуй дакументы, паказвай валізы — пагранічнікі, мытны агляд. Мытнікі настырна шныпараць у купэ, падымаюць лаўкі, сагнаўшы з іх седакоў. Адкрый чамадан, сумку, сетачку... Зірнуўшы ў мой пашпарт, хударлявая, нечым дужа заклапочаная мытніца хутка знікае з маім дакументам у невысокім непрыветным будынку. Вяртаецца, але не адна, а з высокім мытнікам, пэўна, старэйшым гэтага мытнага акалотка!

— Што везёте, гражданин, — пытаецца высокі ў мяне і так строга, як на допыце ў следчага.

— Харчовы падмацунак. Нашы газеты пішуць, што там, у Латвіі, лапу смокчуць, з хлебам перабоі. А так не прападу, свой хлеб і да хлеба.

— А што это? — мытнік паказвае на два боханы "Нарачанскага", запаянага ў поліэтыленавы бушлат.

— Кажу ж, што боепрыпасы на дзень утомны, — са сваім хлебам у госці.

— Понятно, товарищ-гражданин, — іранічна прагаварыў служывы, — а мы проверим. — з гэтымі словамі ён адкрывае скураны пухір-папачку і выцягвае бліскучую спіцу-заточку. Памацаўшы бохан, крыху памеркаваўшы, усадзіў заточку ў бохан. Раз, другі, а на трэці не рашыўся.

— Заразу напусціш, — не вытрымліваю я.

— Не беспокойтесь, стерильная, — супакойвае ён. Але і гэтага яму аказалася мала, і ён прапанаваў паказаць кішэні куртачкі.

Але дакумент не вярталі, усё яшчэ цешачы сябе надзеяй знайсці крамолу.

З якое ласкі да мяне такая пільная ўвага службовых асоб? Але ж прыйшлося вярнуць дакумент. І толькі цяпер зразумеў, чым я насцярожыў мытнікаў. Пашпарт "лукашэнкаўскі" быў схаваны ў самаробныя скураныя вокладкі, на якіх красавалася "Пагоня".

А вось дзецюка з суседняга купэ патрэслі капітальна і выявілі кантрабанду — паўтара літра чыстага спірту ў посудзе ад "Дарыды".

— Будзем рабіць канфіскат, — строга папярэдзіў абрадаваны мытнік, — складзём акт і будзем знішчаць... Выльем ваш спиртик, уважаемый, — неяк дзіўна прагаварыў мытнік.

— Я табе выльлю, — раптам ускіпеў дзяцюк і, адкаркаваўшы "Дарыду", наліў поўную шклянку спірытусу і з ціхім прыдыхам:

— Каб ты здох, кульнуў "прымусовую" чарку.

Мытнікі нечакана засмяяліся і панеслі дабро да сябе, на "знішчэнне" ў свой закутак.

Затое латвійскія пагранічнікі з мытнікамі — бралі пад казырок, ставілі штамп у пашпарт, — шчасліва гасцяваць у Латвіі.

### Латвію ратавала ўкраінскае сала

Вопыт суседкі, магчыма, спатрэбіцца і нам. Як распаўся Саюз, шыты гнілымі ніткамі, дык "вольная" Расія паказала Латвіі вялікую дулю і пасадзіла Латвію на галодны паёк. Не дамо вам халяўнага газу і нафты, не буду купляць вашы шпроты з хамсой і салакай, піце самі свой "бальзам рыжскі".

І, праўда, што рабіць. Рускамоўныя латышы з хатулямі пацягнуліся на Украіну. Мой малодшы брат Лявон і яго ўкраінскі калега па мяшочнаму бізнесу Мыкола з Ахтыркі, што на Ровеншчыне, кожны тыдзень спяшаліся па сала, па мёд, па часнок, па алей, па боб і гарох, па цукар, па белыя гарбузовыя семачкі, па... А сакрэт быў просты. Літва плаціла сваім тубыльцам даляры, а на Украіне за адзін "зялёны" давалі жменю купонаў. І харчу бралі, як падняць. А як падняў, дык панясеш. Мёдам напаўнялі-налівалі поліэтыленавыя мяшкі, косы часнаку і ладнай цыбулі чаплялі на шыю. Відок што трэба.

У пакойчыку маёй майстэрні, што вокнамі выходзіла на "бочкі з дымам", — цягнікі, у нядзельныя дні шчодрай восені збівалася да дзесяці чалавек. Есці хацелі і былыя бухгалтары, механікі тралейбуснага дэпо, маракі тралфлоту, начальнік цэху завода па вырабу самых знакамітых на абшарах СССР — галасістых радыёпрыёмнікаў "Рыга".

А прравацца на цягнік Сімферопаль—Рыга было ой як няпроста. Бралі штурмам, віселі на падножках, шчаміліся на даху.

Такія вось малюнкі пераходнага перыяду, якія нам яшчэ давядзецца перажыць.

### А цяпер рыжане сала польскае ядуць

Яно смачнейшае, дзешавейшае і ўкраінскага, і тым болей беларускага. Адзін з прыгаданых мяшочных бізнесменаў Мыкола з Ахтыркі стаў мясным баронам на знакамітым Рыжскім рынку. Пацягаўшы ў Рыгу на сваёй хрыбеціне тоны ўкраінскага сала і добра навярэдзіўшы пупок, Мыкола ўзбіўся "на сваю купіну". У яго харошы конь — чорны "Мерс" з шырокімі коламі і гучнай музыкай, свае людзі ў мытні, у міліцэйскіх пастарунках і ў бандыцкіх хеўрах. А душа ў Мыколы шчодрая. Паслухайце, як Мыкола люду гаротнаму паспагадвае. Кожнаму бамжу, інваліду, што да каляскі прыкаваны, ветэрану-акопніку другой сусветнай выдзяляе дыхтоўную вепруковую галаву. Я на свае вочы бачыў гэтых шчаслівчыкаў з важкімі падарункамі ад Мыколы. Галовы вепрукоў неслі падпахай, хавалі ў празрыстых мяшках, чаплялі да інвалідных цялежак. І такіх на рынку некалькі дзесяткаў. Уявіце сабе гэтых шчаслівых людзей з адсечанымі галовамі. А тыя ветэраны, хто вызваляў ад захопнікаў Украіну і мог пацвердзіць дакументальна, атрымлівалі і вепруковыя ногі — на халоднае.

### Спажывецкі кош рускамоўнага рыжаніна

Кажу свайму брату Лявону, а ён у Рызе і пасівеў:

— У дзяржаўных СМІ палохаюць нашых забітых дзядзькоў і вясковых цётак. Маўляў, Латвія паспяшалася ў капіталізм і цяпер мае нястачу, перабоі з харчам, давялі просты народ да ручкі, пахапалі ўсю маёмасць, што працавітым людзям належала. Як у цябе, у тваёй сям'і з харчам?

Брат шчыра рассмяяўся:

— Мяне адсюль, з Рыгі, і калом не выганіш. Не трэба мне лукашэнкаўскага раю, ведаю, што і да чаго.

— А сколькі ты ў свой спажывецкі кош кладзеш?

— А зараз палічым... Жонка ўвіхаецца касіркай на рынку, мае амаль дзвесце даляраў. Я зарабляю трошкі болей на будаўнічых падрадах, а гэта самыя высокія заробкі. Колькі выходзіць? На ежу трацім 20 працэнтаў ад заробленага. У нас удосталь і мяса, дзешавейшага ўдвая, чым у Беларусі. Рыбы якой хочаш. Рыга адбудоўваецца хуткімі тэмпамі, — круглыя суткі, — ідзі, працуй, не лянуйся.

### Рыга будуецца, што Рыо

І хораша, аж зайздросна. Горад харашэе. І да свайго 800-годдзя, якое адзначалася ў жніўні гэтага года. Гэта хутчэй не будоўля, а музейная рэстаўрацыя. Уражваюць ціхія, утульныя куточкі, вузенькія старадаўнія вуліцы. Тут у цесным суседстве і дзікія каменні, і дубовыя лаўкі, і арыгінальная каванка. А якія кветнікі, кусты экзатычных раслін! На гасціны на святочны юбілей Рыгі з'ехалася да мільёна гасцей. На жаль, у нашай афіцыйнай прэсе пра гэта амаль не прыгадвалася.

Спынішся, уражаны. Бясконцымі раўчукамі цякуць чысценькія бабулі з Амерыкі, Англіі, Нямеччыны. Такое ў сябе мы не хутка пабачым. А вечарам над прыгожай Рыгай непаўторнае відовішча — святочны феерверк — вогненных майстроў гукнулі аж з Аўстраліі, тых, хто ўпрагожыў начны Сідней, — сталіцу Алімпійскіх гульняў.

### Мацюкніся па-латвійску — не выпхнем з работы

А брата Лявона і турнулі з работы, як і тысячы іншых рускамоўных з Украіны, Расіі, Казахстана па прычыне вельмі паважанай: за няведанне і не жаданне вучыць, карыстацца мовай таго народа, на зямлі якога пражылі ўсё жыццё.

Брат Лявон працаваў у прэстыжным гатэлі, меў штомесяц трыста даляраў заробку.

— Вучыся на курсах, Лявоне, — ціха прасілі Лявона, — чалавек ты працавіты, старанны, нам такія патрэбны.

— А навошта мне вучыцца? — аднекваўся Лявон.

На экзаменах па мове Лявон ані ў зуб нагой. Дырэктар гатэля пашаптаўся з членамі камісіі і ціха папрасіў Лявона:

— Ругніся па-латвійску, — пакінем на рабоце.

Каб жа, каб жа. На жаль, і сваю родную мову ён ведае так, як і латвійскую.

### Хахол Мыкола — грамадзянін Латвіі

А вось згаданы Мыкола з Ахтыркі парупіўся, пайшоў на курсы, старанна вучыў мову тае краіны, дзе рабіў бізнес на сале. Праз год пайшоў на экзамены, папярэдне "кінуўшы" аднаго кабана каму трэба.

І, усхваляваны, на латышскай мове даваў клятву шанаваць краіну Латвію, садзейнічаць яе росквіту і берагчы ад ворагаў.

І атрымаў доўгачаканы пашпарт грамадзяніна Латвіі, тры дні хмяліў крыты рынак.

— Буду галасаваць, усюды ход мне адкрыты і віза, чуеш, магу ехаць у сорак дзве краіны, — Мыкола спрабуе пералічыць краіны, але асякаецца на Нямеччыне, адкуль яму ідзе кантрабанднае сала... Ці не тое, заганьбаванае, англійскае з яшчурам.

### Передайте Лукашенко: мы свои шинели в утиль не сдадим

Сяджу на плошчы Латышскіх стралкоў. Яна даўно ўжо не самая-самая ў Рызе, як у былыя часіны. У руках у мяне "Савбелка". "Советскую Белоруссию" прыхапіў для "прыманкі". Выстаўляю, каб бачна здалёк была. Ведаю, абавязкова нехта клюне. І праўда, падсаджваецца сталага веку, у пацёртым, але дагледжаным касцюме.

— Могу ли интересом своим вас отвлечь? — віцеевата пачынае ён. — Родным ветерком повеяло от вас, неужели из Советской Белоруссии изволили прибыть? — ледзь не шэпат.

— Вы ўгадалі, — усцешваю яго.

— Вы передайте Лукашенко, друзей ваших здесь — дивизия... Я не шучу... И еще передайте: свои фронтовые шинели мы в утиль не спешим сдать...

Я азірнуўся, мой незнаёмец рушыў у бок былога музея латышскіх стралкоў, а цяпер ён — музей акупацыі.

### "Эфіоп тваю маці" і фальшывыя даляры

Пара і дахаты. На рыжскім вакзале яшчэ цішэй, чым на мінскім. Крыху воддаль ад мяне вясёлая купка. Спяваюць песні, частуюцца з пляшкі "шампані", жартуюць. Як высветлілася, прычына святочнай імпрэзы адчувальная: круглая дата — сабраўся выпуск Інстытута грамадзянскай авіяцыі. Адзіны мінчук у форме авіятара, яму не спяваецца, не да весялосці. Хадзіў хмурны з недапітай пляшкай харошай гарэлкі "Смирнофф". Ён і аказаўся суседам, адзіным у маім купэ.

Памаўчаў, пазіраючы, як цягнік вырваўся з абдымкаў горада, — пайшлі прысады, утульныя дамочкі.

— А чаму вы, як з памінкаў? — пытаюся ў яго. — Усе спявалі, як на "Славянскім базары", а вы...

— А я прыехаў паплакацца сябрам, дый з працягнутай рукой, у каго яшчэ прасіць, мы жылі як адна сям'я...

— А якая ж бяда ў вас? — пытаюся.

— Кінулі нас эфіопы, як лохаў, кінулі, — чэкісты эфіопскія, — працадзіў ён.

Я ўважліва зірнуў на авіятара, не разумеючы. Пэўна, перакваслілі тут, за шчодрымі пачастункамі. А ён нібыта ведаў, пра што я думаю, працягваў:

— Хачу напіцца, але не выходзіць, не бярэ хмель, душа баліць... Прадавалі зброю і тэхніку сябрам па нянавісці: сірыйцам, эфіопам, іракцам... Прыязджаюць у Мінскі аэрапорт, вышкаленыя, нахабныя з поўнымі даляраў дыпламатамі... Бяруць усё, што даём: і гарачую зброю, і прыборы начнога бачання, і... Паляцелі эфіопы, а мы грошы пералічваць, я якраз дзяжурыў... Аказалася, падсунулі, сабакі, некалькі дзесяткаў тысяч фальшывых даляраў. Класная падробка, у банку адсачылі... Наша шчасце, што нумары запісалі, сядзець бы мне ў пішчалаўскім санаторыі. А так, некалькі тысяч штрафных... Кінеш у касу — вольны... Сябры збіралі, хто сколькі...

Мяне змарыла, і я заснуў. Прачнуўся ноччу і бачны мой гаротны авіятар, апустошыўшы пляшку гарэлкі, пералічваў... даляры. Пяцёркі складваў асобна, дзесяткі — асобна. Ці не тыя, што скінуліся былыя выпускнікі. Але ці хопіць гэтых даляраў, каб сплаціць за фальшыўкі, эфіоп іх маці.

*У матэрыяле захавана аўтарская лексіка.*

# Ирак готовится к биологической войне

## А Пентагон — к массированным бомбардировкам "лучшего друга" Беларуси



*Заместитель министра обороны США Пол Уолфовитц.*

**Согласно источникам американской газеты "Ю-Эс-Эй Тудей" (USA Today), в Конгрессе США и в Пентагоне, "новой фазой в антитеррористической кампании станут массированные авиаудары США по Ираку". Заместитель министра обороны США Пол Уолфовитц заявляет о том, что "для начала военной кампании против Ирака не обязательно иметь достоверную информацию о том, что Саддам Хусейн имеет отношение к организации терактов в Нью-Йорке и Вашингтоне 11 сентября".**



*Пентагон вынашивает планы бомбардировок Ирака?*

Вторит ему национальный советник США по делам безопасности Кондолиза Райс, которая заявила на днях, что "и без терактов 11 сентября понятно, что Саддам Хусейн — очень опасный человек". Еще одна причина особого внимания Штатов к "лучшему другу" Беларуси ясна из последней информации из Швейцарии. Как сообщила британская компания "Би-Би-Си", выступая в Женеве на встрече официальных лиц из 144 стран, заместитель госсекретаря США Джон Болтон заявил, что в Ираке ведутся работы по созданию биологического оружия в обход международных санкций.

"Есть и другие страны, с которыми США будут в частном порядке обсуждать возникшие у нас подозрения о том, что они разрабатывают агрессивные программы с использованием биологического оружия", — добавляет Болтон. При этом упоминаются такие страны, как Иран и Северная Корея. Представители Ирана в ответ, естественно, заявляют, что все подобные обвинения "неправомерны и лишены оснований".

Джон Болтон: "У США есть все основания полагать, что за три года, в течение которых в Ираке не работали инспектора ООН по вооружениям, Багдад вывел на новый уровень свою программу по изготовлению биологического оружия. Наличие такой программы у Ирака — бесспорно". Болтон считает, что для террориста номер один Усамы бен Ладена "получить доступ к биологическому оружию и применить его против США — священный долг". "Нас беспокоит то, что бен Ладен, возможно, воспользуется помощью какого-нибудь государства для достижения своих целей", — говорит в Женеве американский представитель.

Судя по последним заявлениям американских официальных лиц, США не ограничатся войной с Афганистаном. Следующая цель, вероятнее всего, — Ирак. И хоть всем понятно, что все подобные цели определяет исключительно президент Соединенных Штатов Джордж Буш, позиция американского парламента и общественное мнение, безусловно, окажут на него влияние. "Война с терроризмом не начинается и не заканчивается в Афганистане", — как бы подтверждает эти слова пресс-секретарь Пентагона Виктория Кларк.

Источник "Ю-Эс-Эй Тудей" в Капитолии также сообщает, что сотрудниками Министерства обороны США уже составлен список военных объектов в Ираке, включая казармы и штаб-квартиры элитных республиканских войск, которые станут целями для американских истребителей. Внешнеполитическое ведомство США — Госдепартамент — пока выражает резко негативное отношение к бомбардировкам Ирака. С точки зрения дипломатов, "эти действия приведут в бешенство весь арабский мир и послужат причиной распада союза стран антитеррористической коалиции".

**Александр СИЛИЧ.**

# Адзін тыгр лепш, чым 99 кошак

**Старшыня Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Вінцук ВЯЧОРКА каменціруе праект "Акта аб дэмакратыі ў Беларусі", прапанаваны амерыканскім сенатарам Д.Гелмзам.**

**— Спадар Вячорка, як Вы ацэньваеце законапраект сенатара Джэсы Гелмза?**

— Прапанаваны Гелмзам біль №1645 "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2001" — гэта сведчанне ўвагі да сітуацыі ў нашай краіне з боку Злучаных Штатаў, з боку Рэспубліканскай партыі, да якой належыць і цяперашні прэзідэнт Буш.



Упершыню ў гісторыі ў іншаземным палітычным дакуменце, які датычыцца Беларусі, пытанне дэмакратычнага развіцця нашай краіны жорстка ўвязваецца з пытаннем захавання яе незалежнасці. Законапраект падтрымлівае "пашырэнне дэмакратыі і абарону незалежнасці і суверэнітэту Беларусі", прадугледжвае санкцыі ў выпадку паглынання Беларусі Расіяй: "...Калі недэмакратычны і нелегітымны ўрад Беларусі ўступіць у саюз з Расійскай Федэрацыяй, што прывядзе да страты суверэнітэту Беларусі, Злучаныя Штаты неадкладна пазбавяць усіх прывілеяў і імунітэту, прадугледжаных Венскай канвенцыяй аб дыпламатычных адносінах персанал і маёмасць урада Беларусі і запатрабуюць неадкладнага выезду гэтага персаналу са Злучаных Штатаў" (раздзел 12).

**— МЗС пераканана, што гэты законапраект прыняты не будзе. А як мяркуеце Вы? Што чакае нас у выпадку непрыняцця альбо прыняцця гэтага законапраекта?**

— Шлях ад законапраекта да закона доўгі (хаця гэты біль прайшоў ужо два слуханні). Але ў кожным выпадку яго фармуляванні паўплываюць на змест паслявыбарчых ацэнак беларускай сітуацыі. Еўрапейскія інстытуцыі выдалі двухсэнсоўную фразу пра непажаданасць ізаляцыі Беларусі, і незразумела — ці самаізаляцыя, якую ўзмацняе сам Лукашэнка, маецца на ўвазе, ці вонкавае яго адсячэнне ад міжнародных кантактаў. А праект Гелмза адназначна ўвязвае любыя кантакты з рэжымам з выкананнем вядомых чатырох умоў АБСЕ, а таксама захаваннем незалежнасці Беларусі. Кангрэс, паводле праекта, "заклікае ўрад Расіі, Дзяржаўную думу і Савет Федэрацыі спыніць падтрымку, у тым ліку фінансавую, рэжыму Лукашэнкі і ў поўнай меры паважаць суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь". Такім чынам, узнікае іншая палярнасць стаўлення да Беларусі. На фоне гэтага законапраекта абмеркаванне беларускага пытання нават у самых згодніцкіх еўрапейскіх інстытуцыях пойдзе інакш.

Звернем увагу на тое, што прапанаваная ізаляцыя рэжыму ні ў якой меры не закранае гуманітарных праграм.

**— Вы сустракаліся з сенатарам Гелмзам. Ці можаце ацаніць яго як чалавека? І чаму менавіта ён актыўна падняў "беларускае пытанне"?**

— Найстарэйшы сенатар-рэспубліканец Джэсі Гелмз (18 кастрычніка яму споўнілася 80) — жывая легенда амерыканскай палітыкі, у тым ліку замежнай, сімвал кансерватызму і вернасці ідэалам свабоды, дэмакратыі, суверэнітэту, непахіснага змагання супраць таталітарных рэжымаў ва ўсім свеце. Ён спрэчны, яго прапановы дыскусійныя, але жыхары Паўночнай Караліны нязменна выбіраюць яго сенатарам вось ужо 6 разоў. І ён адыгрывае сваю ролю, бясстрашна змагаючыся супраць таталітарызму, за свабоду паняволеных народаў. Куба, Тыбет, Югаславія, Тайвань, а цяпер і Беларусь — вось прыярытэты яго ўвагі. Паслядоўны антыкамуніст, які дамогся свайго — развалу СССР, — ён не хоча адраджэння расійска-савецкага імперскага монстра ні ў якой форме.

Як чалавек Гелмз учэпісты розумам, з дэталяў акрэслівае карціну, вельмі камунікабельны, зычлівы. Ведаю, што ў Сенаце ёсць пра яго прымаўка: "Лепш мець на сваім баку аднаго тыгра, чым 99 кошак".

